ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 35 (2561)
ПЯТНІЦА
27
жніўня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**ВЫБРАЦЬ прафесію на ўсё жыццё—гэта вельмі адказна: перад сабой, сябрамі, бацькамі, краінай...**

**Дзяўчаты і юнакі, якіх вы бачыце на здымку, вырашылі прысвяціць жыццё музыцы. Пройдзе некалькі гадоў, і мы ўбачым іх кіраўнікамі хораў на прадпрыемствах і ў калгасах, у дамах культуры і школах.**

**Песня робіць чалавека лепшым, песня пашырае далягляды, з песняй сябруюць шчырыя, адважныя, сумленныя людзі.**

**У Віцебскім культасветвучылішчы, якое адкрываецца сёлета, закончыліся прыёмныя экзамены. Шэсцьдзесят чалавек 1 верасня пачнуць вучобу на дырыжорска-харавым факультэце.**

Фота Л. МЕЙНЕРТА.

У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР

# НАСУСТРАЧ ЮБІЛЕЙНАЙ ДАЦЕ

Калегія Міністэрства культуры Беларускай ССР прыняла пастанову аб падрыхтоўцы тэатральнага мастацтва да 50-годдзя СССР і паляпшэнні міжрэспубліканскага абмену лепшымі драматычнымі і музычнымі творамі. Пастанова прадугледжвае правядзенне ў II паўгоддзі 1972 г. рэспубліканскага агляду спектакляў драматычных тэатраў і ў 1 квартале 1973 г. рэспубліканскага агляду спектакляў музычных тэатраў, ажыццёўленых па творах драматургаў і кампазітараў братніх народаў СССР.

Лепшыя спектаклі будуць рэкамендаваны для ўдзелу ва ўсесаюзным фестывалі драматургіі народаў СССР і ўсесаюзным аглядзе спектакляў музычных тэатраў.

Кожнаму драматычнаму тэатру рэспублікі, гаворыцца ў пастанове, трэба падрыхтаваць да агляду на высокім ідэйна-мастацкім узроўні 1—2 спектаклі па п'есах драматургаў братніх рэспублік.

Драматычным тэатрам імя Купалы і Коласа і тэатру юнага гледача разгледзець пытанне аб магчымасці запрашэння для пастаноўкі спектакляў рэжысёраў іншых нацыянальных рэспублік.

Увесці ў газеце «Літаратура і мастацтва» пастаянную рубрыку аб падрыхтоўцы да рэспубліканскага і ўсесаюзнага фестываляў драматургіі народаў СССР, матэрыялы якой інфармавалі б аб новых творах драматургаў саюзных рэспублік.

Летнія гастролі 1972 г. мяркуецца арганізаваць як паказ шматнацыянальнага тэатральнага мастацтва. Рэпертуар гастроляў прадугледжвае спектаклі па п'есах драматургаў народаў СССР.

□

На Усесаюзны агляд спектакляў музычных тэатраў у сувязі з 50-годдзем СССР тэатры оперы і балета і тэатры музычнай камедыі і аперэты могуць прадставіць па 1—2 спектаклі, пастаўленыя з 1 кастрычніка 1971 г. па 1 красавіка 1973 г. За лепшыя спектаклі па творах кампазітараў братніх рэспублік устанаўліваюцца асобна па кожным жанры дыпломы I, II і III ступеняў. Дыпломамі таксама могуць быць адзначаны асобныя артысты за цікавыя сцэнічныя вобразы. За выдатныя спектаклі з ліку адзначаных дыпломамі I ступені ўстанаўліваюцца грашовыя прэміі з фонду Міністэрства культуры СССР: за оперны—5 000 рублёў, за балетны—5 000 рублёў, за спектакль музычнай камедыі—4 000 рублёў. Вынікі агляду будуць аб'яўлены 1 ліпеня 1973 г.

# СУСТРЭЧА СЯБРОЎ

*У Доме мастацтваў адбылася сустрэча артыстаў Ровенскага музычна-драматычнага тэатра імя М. Астроўскага з мінскімі калегамі і грамадскасцю горада. Госці расказалі пра гісторыю свайго тэатра, падзяліліся ўражаннямі ад сустрэч з беларускімі гледачамі і драматургамі, у прыватнасці, з А. Макаёнкам, з якім іх звязвае даўняя дружба. Прысутныя з цікавасцю прагледзелі сцэны са спектакляў «Налівайка», «Джэні Герхарт» і інш. У іх былі заняты вопытныя майстры сцэны і артыстычная моладзь.*

*Ад імя гаспадароў выступілі народны артыст БССР М. Яроменка і заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Ул. Стэльмах. Гасцям былі ўручаны кветкі. Сустрэча прайшла ў сардэчнай, сяброўскай атмасферы.*

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# ЁСЦЬ ЗАКОН ГАСЦІННАСЦІ

**Анатоль Вярцінскі вярнуўся нядаўна з Венгрыі. Мы папрасілі яго сказаць некалькі слоў аб сваёй паездцы, аб сённяшнім стане беларуска-венгерскіх літаратурных сувязей.**

ХІГМАНТ ГЕРАНЧАР, загадчык аддзела савецкіх літаратур выдавецтва «Еўропа», з усмешкай глядзеў на мяне і гаварыў: «Проста не верыцца... Вы першы беларускі паэт, якога я бачу». Ён расказаў, што выдавецтва цікавіцца нацыянальнымі літаратурамі нашай краіны, у тым ліку і беларускай, што хутка выйдзе ў калектыўным зборніку новая аповесць Васіля Быкава «Сотнікаў», што ён сам перакладаў адно апавяданне гэтага аўтара... Наша знаёмства адбылося літаральна на калідоры, першая размова была мімаходзь. Назаўтра яна была прадоўжана ў кабінеце галоўнага рэдактара выдавецтва. Сам галоўны быў у адпачынку, і я гаварыў з яго намеснікам паэтам Ласла Лотарам, рэдактарам выдавецтва паэтэсай Юдзіт Пор, з маім новым знаёмым Хігмантам Геранчарам і ўжо, можна сказаць, старой знаёмай, добрым другам нашай літаратуры Шара Карыг. Гады два таму назад Ш. Карыг, перакладчыца са славянскіх моваў і рэдактар выдавецтва, прыехала ў Мінск і прывезла добрую навіну: выдавецтва «Еўропа» плануе ў серыі «Люстра», якая знаёміць з літаратурамі народаў свету, выданне анталогіі-хрэстаматыі беларускай літаратуры. Карыг была, такім чынам, той першай ластаўкай, якая прадвяшчае вясну, на гэты раз — цёплы павеў у нашых сувязях з венгерскай літаратурай.

У час свайго візіту я яшчэ раз пераканаўся, што невыпадкова нашай анталогіяй займаецца менавіта такі чалавек, як Шара Карыг. Як нельга было б аб'яднаць у адзін выдатны горад Буду і Пешт без удзелу мостабудаўнікоў, так нельга ўявіць міжнацыянальныя літаратурныя сувязі без людзей-энтузіястаў накшталт Карыг. Да гэтага яна шмат рабіла для папулярызацыі ў сваёй краіне ўкраінскай і балгарскай літаратур. Потым звярнула ўвагу на нашу літаратуру, стала ініцыятарам выдання яе анталогіі. Зараз яна ўжо нядрэнна чытае і разумее па-беларуску, абклалася нашымі кнігамі, слоўнікамі, даведнікамі, «вярбуе» сяброў беларускай літаратуры.

А сябры ў нас тут ёсць. Да ліку іх з прыемнасцю аднясу, напрыклад, літаратуразнаўцу Эндрэ Бойтара. Вясной ён быў праездам у Мінску, мы з ім тады пазнаёміліся. У Будапешце сустрэліся зноў. Эндрэ Бойтар даследуе авангардысцкую паэзію дваццатых гадоў, зацікавіўся ён і нашай паэзіяй гэтага часу, у прыватнасці, творчасцю Александровіча, Дубоўкі, Пушчы, Хадыкі, Чарота. Каб чытаць нашых паэтаў у арыгінале, ён таксама вывучае беларускую мову.

Шмат увагі і гасціннасці аддаў мне і перакладчык Дзёрдзь Рада. Ён быў у Беларусі, перакладаў на венгерскую мову Францішка Багушэвіча, дапамагаў Міколу Хведаровічу ў падрыхтоўцы да выдання на беларускай мове выбранай лірыкі Шандара Петэфі і напісаў прадмову да яе.

Наогул, як я пераканаўся, кола сяброў нашай літаратуры ў Венгрыі мае тэндэнцыю пашырацца. Шара Карыг паказала мне сціпла выдадзеную яшчэ ў пасляваенны адразу час кнігу перакладаў аднаго з вядомых венгерскіх паэтаў Гезы Кепеша. (У Венгрыі, дарэчы, амаль усе паэты з'яўляюцца сталымі перакладчыкамі, і выдавецтвы, як правіла, вельмі шмат друкуюць перакладной літаратуры). У гэтай кнізе побач з творамі рускай класічнай і савецкай паэзіі змешчаны і

# СУВЯЗІ ТРАДЫЦЫЙНЫЯ, ТРЫВАЛЫЯ

ШТОГОД многае робіцца нашымі творчымі саюзамі, установамі культуры, тэатрамі, дзеячамі мастацтва па ўмацаванні сувязей з працаўнікамі заводаў, калгасаў і саўгасаў. У год Ленінскага юбілею і ў час падрыхтоўкі да XXIV з'езда КПСС шэфскія выступленні набылі сістэматычны характар.

Праўда, ёсць у нас яшчэ і нявырашаныя задачы, асабліва па культурным шэфстве дзеячоў мастацтва над сялом. Менавіта аб гэтай вялікай і адказнай працы ішла размова ў Маскве на пасяджэнні Цэнтральнай камісіі па культурна - шэфскай працы на вёсцы, старшынёй якой з'яўляецца лаўрэат Ленінскай прэміі, народны артыст СССР Міхаіл Ульянаў. Выступалі са справаздачамі, дзяліліся планамі нашы сябры—масквічы, украінцы, прадстаўнікі Тулы, Хабараўска, Курска, намеснік міністра культуры СССР Р. Уладыкін, адказны сакратар праўлення Усерасійскага харавога аб'яднання А. Мухарскі, старшыня ЦК прафсаюза работнікаў культуры М. Пашкоў і інш.

Загадчык аддзела тэатраў Усерасійскага тэатральнага аб'яднання Б. Елістратаў расказаў аб рабоце аб'яднання па шэфстве над вёскай. У 1970 годзе ў народныя тэатры, сельскія калектывы, клубы па камандзіроўках аб'яднання выязджала больш дзвюх тысяч рэжысёраў, акцёраў, мастакоў, тэатразнаўцаў. У Маскве, Ленінградзе, Горкім, Хабараўску і іншых гарадах створаны спецыяльныя лабараторыі-семінары, у якіх займаюцца рэжысёры народных тэатраў і сельскіх драматычных калектываў...

Кожны трэці жыхар на вёсцы — удзельнік мастацкай самадзейнасці. І нам неабходна знайсці дарогу да яго сэрца. Складаная, пачэсная і адказная задача. Прэзідыум Усерасійскага тэатральнага аб'яднання вырашыў выдаць спецыяльны зборнік, прысвечаны шэфскай працы на вёсцы.

Вялікую работу ў сельскай мясцовасці праводзяць тэатральныя работнікі, мастакі і пісьменнікі Украіны. Аб гэтым расказаў у сваім выступленні прадстаўнік украінскай камісіі П. Арлоў. Нашы сябры на Украіне рэгулярна праводзяць дэкады мастацтва і літаратуры ў раённых, калгасных і саўгасных клубах. Яны назапасілі цікавы і карысны вопыт, які варта вывучаць і нам, беларусам.

Прадстаўнікі нашай рэспублікі падзяліліся сваім вопытам работы ў гэтым напрамку. За адзін толькі мінулы сезон тэатры і іншыя творчыя калектывы Беларусі паказалі каля 3 000 спектакляў і канцэртаў сельскаму гледачу. Можна было б назваць многіх дзеячоў сцэны, якія ў часе выязных спектакляў сустракаюцца з самадзейнымі артыстамі, культасветработнікамі, гутараць з імі пра надзённыя пытанні развіцця савецкага мастацтва, даюць кансультацыі самадзейным драматычным калектывам, музыкантам, мастакам, народным умельцам. Маршруты, напрыклад, эстрадных калектываў Беларускай філармоніі праляглі па ўсёй рэспубліцы — ад Турава да Верхнядзвінска, ад Белавежы да Мсціслаўшчыны.

Усе члены БТА разумеюць, што нашы мерапрыемствы на сяле павінны быць больш планамернымі, а не эпізадычнымі. А ў нас яшчэ, на жаль, здараецца, што ў адным клубе паказваюць па два-тры канцэрты і спектаклі ў месяц, а ў другіх, больш далёкіх ад абласных цэнтраў— ніводнага.

На тэатральна-канцэртнай карце Беларусі мы не маем права пакідаць ніводнай белай плямы, дзе б не выступалі мастацкія калектывы і вядучыя акцёры і салісты. Усе ж помняць, напрыклад, як узаемна ўзбагачаліся прафесійныя артысты і аматары самадзейнай сцэны ў часе выступленняў у народных тэатрах такіх выдатных майстроў, як Б. Платонаў, Г. Глебаў, В. Пола, В. Галіна, Г. Абуховіч, Ц. Сяргейчык... Бывае, вядучыя артысты абмяжоўваюцца толькі праглядам аматарскіх спектакляў і кансультацыяй. Не варта губляць тыя формы, якія былі знойдзены намі раней.

Актыў БТА перагледзіць свае планы і выпрацуе больш канкрэтныя меры па ўмацаванні традыцыйных сувязей прафесійных дзеячоў сцэны з самадзейнасцю.

На XXIV з'ездзе КПСС Л. І. Брэжнеў прыгадаў нам, што чым больш трывалай будзе сувязь мастака з усім шматгранным жыццём савецкага народа, тым больш плённай будзе і яго творчая дзейнасць, больш значных поспехаў ён дасягне на сваім шляху. Гэтым прынцыпам і кіруецца цяпер армія пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, кампазітараў, рэжысёраў, кінематаграфістаў. Яны ўносяць свой уклад у справу камуністычнага выхавання працоўных краіны.

**Ул. СТЭЛЬМАХ,**
**старшыня Рэспубліканскай камісіі па культурнай рабоце на сяле.**

КАЛІ ВЫ гарадскі жыхар, вашы кантакты з камунальнікамі пачынаюцца з ранішняга тралейбуса альбо трамвая: на білеце, які вы набылі, азначана «Мінкамгас». Але што трамвай і тралейбус! Без камунальнікаў шклянкі вады не вып'еш. Мы карыстаемся камунальным водаправодам, камунальным ацяпленнем, камунальнікі рамантуюць нашы кватэры, сочаць за зялёным аздабленнем і чысцінёй гарадскіх вуліц, паркаў, садоў, пляжаў. Яны ачышчаюць нашыя гарады ад бруду і смецця. Не будзе перабольшаннем сказаць пра іх словамі паэта, што яны «асенізатары і вадавозы», мабілізаваныя і прызваныя на пачэсную службу грамадству. Службу не заўсёды прыемную, але такую, без якой немагчыма ўявіць сабе нармальнае жыццё кожнага з нас.

Якая яна, камунальная гаспадарка рэспублікі?

— Сёння камунальная гаспадарка—адна з важнейшых галін, якая абслугоўвае матэрыяльна-бытавыя патрэбы насельніцтва, а таксама культурна бытавых і прамысловых прадпрыемстваў, — гаворыць міністр камунальнай гаспадаркі БССР Уладзімір Барысавіч Труноў.—У сістэме Мінкамгаса, на яе вытворчых базах, у праектна-даследчым інстытуце, на заводзе «Камунальнік», на станцыях і ўчастках працуе сёння больш 56 тысяч чалавек. Наколькі ўзрастае значэнне нашай гаспадаркі, сведчыць і такі факт: у мінулым годзе нам перадалі рамонт усяго жыллёвага фонду мясцовых саветаў, а ён на 1 студзеня 1971 года складаў 9.35 мільёнаў квадратных метраў.

— Уладзімір Барысавіч, вы апярэдзілі мяне. Я толькі збіралася гаварыць пра рамонт кватэр. Усё, што з ім звязана, даўно ўжо стала мішэнню для гумарыстаў і сатырыкаў. Але не на сцэне, а ў самім жыцці я была сведкай такой размовы. Сустрэліся два знаёмыя. Адзін — бадзёры, падцягнуты, ажыўлены, другі—пахмуры, вочы, як у зацкаванага. «Што з табой?— пытаецца бадзёры.—Захварэў, ці што?»—«Стыхійнае бедства!—кажа той.—Рамонт у мяне, браце»... —«А ты чаго такі вясёлы?»—«А ў мяне ён скончыўся!»

На жаль, гэта не анекдот... Дык што робіцца для таго, каб рамонт кватэры не ўспрымаўся чалавекам як бедства, каб яго можна было зрабіць гэтак жа проста, як, скажам, пачысціць у хімчыстцы касцюм?

— Я зноў пачну з лічбаў: калі раней планавыя сродкі, якія адпускаліся на рамонт па заяўках насельніцтва, складалі па нашым міністэрстве 2,5 мільёнаў рублёў, дык цяпер—24,7 мільёнаў. Што датычыць рамонту па планах домакіраўніцтваў, дык на яго за мінулую пяцігодку было выдаткавана 110 мільёнаў рублёў. Было адрамантавана больш васьмі з палавінай тысяч дамоў (1,7 мільё-

Касцюкоўшчыны. Ён вырас над рэчкай Сураў, прытокам Бесядзі. Ад Віктара Лаўрэнавіча я пачуў хвалюючы расказ. Да вайны над Суравам быў вялікі лес, са шматлікімі крынічнымі азярынамі і балацявінамі. За вайну лес над Суравам вынішчылі. Зараз тут бачыш бяскрайняе поле, зарослае дзенідзе хмызамі. І ні тых крынічных азярын, ні тых балацявін, што жывілі раку. Адкрытыя сонцу і вятрам, яны павысыхалі. Абмялела рэчка Сураў, і ўжо не тыя воды нясе яна ў Бесядзь.

У вёсцы Ціхань, што над Бесяддзю, гутару з пенсіянерам Сяргеем Савельевічам Лякіным.

— Мялее Бесядзь,—гаворыць ён.

Сяргей Савельевіч скіроўвае сваю ўвагу на знішчаныя лясы, і не толькі на тыя, якія паблізу Бесядзі, а і на тыя, якія раслі далёка ад яе, але з якіх бяруць свой пачатак меншыя і большыя прытокі ракі.

Выдатны рускі пісьменік-прыродалюб С. Аксакаў пісаў: «Прырода так і дзейнічае — рэкі, рэчкі, ручаі і азёры амаль заўсёды абрастаюць лесам або кустамі. Выключэнні рэдкія. У спалучэнні лесу з вадою заключаецца другая вялікая мэта прыроды. Лясы—зберагальнікі вод: дрэвы закрываюць зямлю ад гарачых промняў летняга сонца, ад сухавейных вятроў; прахалода і свежасць жывуць у іх ценю і не даюць высахнуць цякучай альбо стаячай вільгаці. Спад рэк, па ўсёй Расіі заўважаемы, адбываецца, па агульным меркаванні, ад знішчэння лясоў».

Гэта ў мінулым стагоддзі пісалася. Тады ўжо заўважаўся «спад рэк... ад знішчэння лясоў».

Таму дзіўнымі здаюцца сёння меркаванні доктара тэхнічных навук Е. Балдакова, які з усёй навуковай сур'ёзнасцю заяўляе ў сваёй кнізе «Жыццё рэк», што падаюць толькі «летнія гарызонты рэк» і нібыта «...няма ніякіх падстаў сцвярджаць, быццам рэкі ўвогуле мялеюць». Куды больш рацыі мае другі буйны вучоны акадэмік А. Гусеў, які ў сваёй кнізе «Клімат і надвор'е» паўтарае аксакаўскае: рэчкі нашы высыхаюць «у выніку звядзення лясоў».

А лясоў мы звялі сапраўды шмат. Толькі ў адным Касцюковіцкім раёне за пасляваенныя гады высечана 16,5 тысячы гектараў лесу. Высечаны яны, вядома, не дарэмна. Дрэвы ляглі ў зрубы хат, гаспадарчых пабудоў разбураных вайною вёсак і гарадоў. Сёння паўсюдна ідзе аднаўленне лясоў. Скрозь па-над Бесяддзю я бачыў адсаджаныя нанава дубровы. У Касцюковіцкім раёне пасаджана пасля вайны 17 тысяч гектараў маладога лесу—столькі, колькі высеклі яго. Праведзены і праводзяцца вялікія работы па лесаўзнаўленню. Усё робіцца сур'ёзна, з навуковым падыходам: сёння на варце нашага «зялёнага друга» стаіць цэлая армія адукаваных лесаводаў. Ды пасаджаныя імі маладыя лясы не скора набяруць сілу, не скора сплятуцца голлі дрэў у адну суцэльную крону, якая захавае вільгаць зямлі. Так, каб вырасціць вільготную, як яе называюць, елку, трэба звыш 80 год, а каб вырасціць дуб—110—120 гадоў. Не, не скора ажывуць крыніцы ў высечаных дубровах. Ды і ці ажывуць яны ўжо там, дзе павысыхалі? Балюча ўсведамляць, што гэтая бяда, якую прынесла нам праклятая вайна, амаль непапраўная. І за яе няма ў каго спытаць.

Ну, а за тое, што робіцца цяпер? Ці заўсёды разумна, па-гаспадарску адносімся мы да прыроды? У апошнія гады многа было нараканняў на меліяратараў. Гэтыя нараканні часта слушныя. Поруч з карысцю, якую меліяратары прыносілі і прыносяць асобным гаспадаркам, адваёўваючы забалочаныя, зарослыя хмызамі землі, яны нярэдка наносілі і наносяць непапраўную шкоду.

Я сам быў сведкам таго, як меліяратары ледзь не загубілі буйны прыток Бесядзі—рэчку Жадунку разам з рэчкай Крупняй. Русла абедзвюх гэтых рэчак у самым вярхоўі меліяратары выпрамілі. Як потым выявілася, асаблівай патрэбы ў тым не было. У тыя дні я гутарыў з заслужаным настаўнікам Беларусі Уладзімірам Іванавічам Кацуком, які жыве і працуе ў Прусіне, што над рэчкай Крупняй.

— Я плакаў, калі капалі Крупню,—расказваў ён мне.

Гутарыў я і з самімі меліяратарамі. Куды ж вы самі глядзіцё, вы ж рэчку губіце, казаў я ім.

— Нам што,—адказвалі яны.—Загад начальства. І план. Заробак патрэбен, вось і капаем.

Грамадскасць перапыніла неразумную дзейнасць меліяратараў. Жадунку і Крупню перасталі капаць, але шкоду ім нанеслі значную. Зараз у верхнім цячэнні абедзвюх рэчак прамы, у абход натуральнаму рэчышчу хуткі сток вады. Многія крыніцы, якія жывілі гэтыя рэчкі, былі закапаны. Усё гэта адмоўна адбілася на ўзроўні вады ў сярэднім і ніжнім цячэнні рэчак.

Бачыў я ірвы меліяратараў на месцы былых рэчак і ручаёў і на Хоцімшчыне. У калгасе імя Карла Маркса гаварыў з брыгадзірам комплекснай брыгады Міхасём Пахомавічам Барыбкіным. Той з хваляваннем расказваў пра ўрочышча Латышчына, якое раскарчавалі і асушылі для іхняга калгаса меліяратары.

— Паглядзелі б на Латышчыну нашы продкі,—гаварыў Міхась Пахомавіч.—Такія зараз травы тут буяюць.

Усё гэта, канечне, хораша. Засмучала іншае. З таго ж Латышчына выцякала рачулка Чачавец, якая ўпадала ў Бесядзь. Калі ж раскарчавалі, асушылі ўрочышча, рачулка счэзла і ўжо каторы год летам не дапінае да Бесядзі.

За вёскай Палеснае мне таксама перагарадзіў дарогу роў меліяратараў. Роў цягнецца ў напрамку Бесядзі. Па дне яго струменіцца вада. Здагадваюся: тут была рачулка. Як яна завецца? Цяпер—ніяк, а калісьці звалася Малая Шражына. Загубілі яе з-за невялікага, у некалькі гектараў, балотца.

Вёска Ціхань, пра якую ўпаміналася вышэй, на мяжы са Смаленшчынай. Мяне праводзіў цераз рэчку Масоўку, што працякае за вёскай, той жа Сяргей Савельевіч Лякін. Мы перайшлі рэчку па кладках ніжэй разбуранай грэблі. Сяргей Савельевіч расказваў:

— Да вайны тут было прыгожае возера. А рыбы колькі было! Вада халодная, ключавая. Столькі ключоў тут біла! А зараз не відаць ні тых крыніц, ні тых ключоў.

Ён ступіў на другі бераг, топнуў па-маладзецку нагой і ўрачыста аб'явіў:

— Гэта ўжо Расія.

Я развітаўся з Сяргеем Савельевічам і адзін пайшоў далей той жа, азначанай звілістай ракой, дарогай. Ішоў я на Смаленшчыну, адкуль бярэ пачатак Бесядзь, з надзеяй убачыць тут нешта новае, прыемнае для мяне. Але ўжо за вёскай Дзятлава я заўважыў знаёмы мне роў на... Бесядзі. Паверце, у мяне сціснулася ад болю сэрца: капаюць Бесядзь! Роў цягнецца амаль на паўтара кіламетра. І не ведаеш, дзеля чаго ён тут—лугі паабапал не нізкія. Няўжо і тут «выконваюць план?»

Наперадзе паказалася вёска, якую вузенькая Бесядзь падзяляла на двое. Вёска называецца Бясёдка. Я ўжо лічыў, што ад назвы вёскі і паходзіць і назва ракі і што дзесьці тут яе выток. Але стрэчная жанчына расказала мне, што выток яе яшчэ праз кіламетры тры—за вёскай Новая Бесядзь.

Іду, прадзіраюся праз хмызы. Пракапаны роў цягнецца і за Бясёдкай. Роў—гэта мая Бесядзь. Рэчка робіцца ўсё вузейшай, усё мялейшай. Нарэшце падыходжу да зарослай альхоўнікам балоцістай мясціны. Тут вада расцякаецца па асацэ і я ўжо не ведаю, куды далей ісці. Непадалёк відаць хаты—Новая Бесядзь. Збочваю ў вуліцу. Страчаю хлопца год чатырнаццаці. Ён і павёў мяне да таго месца, адкуль бярэ пачатак Бесядзь.

Мы прыйшлі да шырокага лазовага куста на ўскраі Туркоўскага балота. Мой праваднік, чую, з чужых слоў, расказаў мне, што некалі тут ляжаў вялізны камень, з-пад якога біла крыніца. Зараз яго не відно. Каля куста—лужына. У адным месцы вада злёгку віруе. Жыве, значыць, пульсуе, б'ецца першая крыніца Бесядзі! Але што гэта? І тут капалі? На ўскраі Туркоўскага балота, з усходняга боку, відаць канава. Падбіраліся і сюды меліяратары, ды, відаць, дужа грязка, далей тэхніка не пайшла. Азіраюся навокал,— дробнае мелкалессе, дрыгва. Якую, практычна, карысць дасць гэтае балота, калі яго асушыць? Бадай што—ніякай. Няўжо капілі толькі дзеля пла-

(Заканчэнне на стар. 12—13).



ІМКЛІВАЯ ПРЫПЯЦЬ.

Фотаэцюд А. КАМАРОВА.

# РАДАСЦЬ

лектыву неаднаразова адзначана рэспубліканскімі ганаровымі граматамі і дыпломамі першай ступені. І гэта таксама пераканаўча сведчыць пра таленавітасць яго стваральніка і кіраўніка, які першым на Беларусі арганізаваў аркестр такога складу.

Талент А. Дзяругі-музыканта раскрыўся не толькі ў лепшых творчых дасягненнях Смаргонскага цымбальнага аркестра. Вельмі ўражлівыя і кампазітарскія творы Аляксандра Анісімавіча, яго «Смаргонская кадрыля», «Калгасныя полькі», «Абаранкі» і іншыя аркестравыя п'есы. Усе яны з'яўляюцца тонкімі парафразамі ў арыгінальнай аўтарскай музыцы паводле фальклорных узораў Смаргоншчыны.

А які вялікі плён дала дзейнасць Аляксандра Дзяругі ў галіне музычнай педагогікі! Гаворка тут ідзе нават не пра вялікую колькасць выхаванцаў Смаргонскага аркестра, якія пад уплывам свайго кіраўніка пайшлі займацца ў прафесійныя музычныя навучальныя ўстановы і цяпер самі кіруюць аркестрамі, харавымі калектывамі, выкладаюць музыку.

Аднойчы мне давялося сустрэцца з былымі вучнямі Аляксандра Анісімавіча, якія сабраліся з розных месц Мінскай вобласці ў Смаргонь, каб пайграць у «сваім» аркестры. На маё пытанне, чаму яны не адпачываюць, чаму ў такі прыгожы дзень не ідуць на танцы ў парк або кінатэатр, а замест гэтага «трацяць» час на рэпетыцыях аркестра, здаецца, Галя Радзевіч тады сказала:

— Калі б не Аляксандр Анісімавіч, не было б музыкі ў нашым жыцці. Гэта ён, як бацька, уладкаваў нас усіх у Маладзечанскае музвучылішча. Гэта ён зрабіў Смаргонскі аркестр для нас родным музычным домам.

Так, стварыць з калектыву «родны музычны дом» здольны толькі таленавіты выхавацель, чалавек з вялікай душэўнай аддачай, улюбёны ў людзей і мастацтва. І ён сапраўды такі, наш Аляксандр Анісімавіч, — клапатлівы і настойлівы, калі справа датычыцца яго-ных музычных «дзяцей».

Часам можна пачуць асобныя галасы, што методыка работы А. Дзяругі быццам не адпавядае сучасным патрабаванням, што Смаргонскі аркестр сёння гучыць не так дасканала, як раней. Ці так гэта? Мне здаецца, што ідэальнай методыкі не існуе наогул, а «перамагае» тая, што ў канкрэтных умовах дае лепшы плён. Нездарма, відаць, пры «недасканалай» методыцы ў Смаргоні шмат год гучыць цымбальны аркестр, а ў іншых раёнах, на жаль, не. Нельга чакаць таксама ад самадзейнага мастацкага калектыву, дзе па розных прычынах часта змяняецца склад удзельнікаў, стабільнай якасці выканання. А сэрца смаргонскія цымбалісты і іх нястомны кіраўнік укладаюць у кожнае сваё выступленне.

Што хочацца яшчэ нагадаць пра Аляксандра Анісімавіча ў знамянальны дзень ягонага 70-годдзя? Тое, што ён узнагароджаны партызанскім медалем, як удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР тройчы адзначаў граматамі ягоную творчую дзейнасць, што сярод прыхільнікаў яго таленту, сярод улюбёных у яго чалавечыя якасці мы можам убачыць і карыфеяў нашай музычнай культуры, і тых, хто толькі пачынае свой жыццёвы шлях у мастацтве.

Радасна мець такіх прыхільнікаў, якіх мае Аляксандр Дзяруга — чалавек і мастак!

І. ІНІЧ.

> **Уж если говорить о переводах,**
> **Которым отдал я немало лет,**
> **То это труд, как всякий труд — не отдых,**
> **Но я о нем не сожалею, нет!**

# НАРОДЖАНАЯ СЯБРОЎСТВАМ

Гэтыя радкі Аляксандра Гітовіча ўзяты эпіграфам да кнігі Паўла Кабзарэўскага «Гаворыць мае сябры». У іх як нельга лепш выказана сутнасць шматгадовай працы вялікага сябра беларускай літаратуры. «Гаворыць мае сябры»—гэта зборнік выбраных перакладаў П. Кабзарэўскага з беларускай паэзіі. Кніга—плён многіх гадоў творчага натхнення і ўлюбёнасці перакладчыка ў Беларусь, у беларускую паэзію.

Больш за сорак гадоў назад у ленінградскіх газетах і часопісах з'явіліся творы беларускіх аўтараў, якія суправаджаліся подпісам—пераклаў П. Кабзарэўскі. З таго часу гэты подпіс дзесяткі разоў стаяў на вокладках кніг многіх беларускіх пісьменнікаў, выдадзеных на рускай мове.

Больш як сорак беларускіх кніг пераклаў на рускую мову П. Кабзарэўскі. не меншая колькасць іх выдадзена па яго ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле. Такім чынам, П. Кабзарэўскім створана цэлая бібліятэка беларускіх твораў на рускай мове. Ён перакладаў прозу П. Галавача, І. Шамякіна, І. Мележа, П. Пестрака, І. Гурскага, У. Карпава, А. Чарнышэвіча, П. Кавалёва, Т. Хадкевіча, М. Ткачова, А. Якімовіча, В. Вольскага, паэзію Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Броўкі, М. Танка, П. Глебкі, П. Панчанкі, М. Аўрамчыка, М. Калачынскага, Э. Агняцвет, А. Вялюгіна, А. Бачылы, В. Віткі, п'есы Я. Купалы і К. Крапівы. А колькі рускіх пісьменнікаў ён далучыў да беларускай літаратуры, перадаўшы ім сваё захапленне, дапамогшы ўбачыць і зразумець багацце і харaство беларускай літаратуры. Яго плённая работа садзейнічала ўмацаванню братніх сувязей паміж рускай і беларускай літаратурамі.

Многіх беларускіх пісьменнікаў звязвала цесная творчая і асабістая дружба с П. Кабзарэўскім. Яго цанілі за дабрату, спагадлівасць, за добрую параду і своечасовую дапамогу, за шчодры талент пісьменніка-перакладчыка.

Адкрываеш кнігу «Гаворыць мае сябры»—і пачынаюць гучаць галасы тых, чыю творчасць горача любіў П. Кабзарэўскі, чыімі творамі не пераставаў захапляцца. Здаецца, што беларускія пісьменнікі прыйшлі ў госці да перакладчыка, а ветлівы гаспадар гасцінна пасадзіў усіх за адзін стол і даў кожнаму сказаць слова пра самае запаветнае. І як у доме сябра не адчуваеш сябе госцем, так і беларускія паэты ў перакладах П. Кабзарэўскага не адчуваюць сябе скаванымі. Натуральна і непасрэдна гучаць іх галасы. Больш сотні вершаў 32 паэтаў змешчаны ў кнізе «Гаворыць мае сябры», і ўсё ж яна не ўмясціла ўсіх тых, каго любіў яе аўтар, чые творы даносіў да рускага чытача.

У кнізе прадстаўлена творчасць многіх вядомых і маладых па літаратурным узросце паэтаў. Напрыклад, у перакладах на поўную сілу прагучалі купалаўскія вершы «За ўсё», «Зашумеў лес разгуканы», «Накарміліся панскаю ласкай», вершы М. Багдановіча «З песень беларускага мужыка» («Я хлеба ў багатых прасіў і маліў...»), «Слуцкія ткачыхі», творы П. Броўкі («Пахне чабор...»), П. Глебкі («Наша слава»). М. Танка («Мой хлеб надзённы», «Прачытай і перадай другому!..»), А. Русака («Лясная песня»), М. Аўрамчыка («Беларуская сасна») і шмат іншых цудоўных твораў.

У перакладах П. Кабзарэўскага гнуткасць беларускай мовы, разнастайнасць творчых почыркаў беларускіх пісьменнікаў знаходзіць сваё належнае ўвасабленне. У гэтым не цяжка пераканацца.

> **И для отчизны бедной,**
> **Для слабых ее сил**
> **Слагал я гимн победный**
> **Среди крестов, могил,—**

гэта гучыць голас Я. Купалы.

> **Я хлеба у сытых просил и молил,—**
> **Они мне каменья давали,**
> **И эти каменья меж ними и мной**
> **Стеною огромною встали,—**

пазнаем мы голас М. Багдановіча.

> **Может нам перебрать надо тысячи**
> **Вариантов различных и тем,**
> **Чтобы образ эпохи был высечен,**
> **Как из мрамора, в строчках поэм,—**

уступае ў размову П. Глебка.

> **В каждой штольне пахнет белорусской,**
> **Боровой, смолистою сосной,**
> **Под землею ход неловкий, узкий**
> **Просекою кажется лесной, —**

гэта слова ўзяў М. Аўрамчык.

Дабіцца такога гучання, каб чутны былі нюансы голасу перакладаемага паэта,—цяжкая задача. П. Кабзарэўскі настойліва імкнуўся да пастаўленай мэты, не робячы сабе палёгкі. Ён адносіўся да перакладу як да вялікага і патрэбнага людзям мастацтва, што вымагае ад мастака сур'ёзнай работы. Працаваў жа П. Кабзарэўскі над перакладамі натхнёна, удумліва, з поўнай аддачай, не шкадуючы сіл, заўсёды адчуваючы адказнасць і перад пісьменнікам, якога перакладаў, і перад яго творамі, і перад народам і літаратурай, прадстаўніком якой быў перакладаемы аўтар.

П. Кабзарэўскі ўдала спалучаў у сабе майстэрства мастака з усебаковым разуменнем беларускай паэзіі і глыбокімі ведамі. Дабіцца прыкметных поспехаў у рабоце перакладчык здолеў і дзякуючы добраму веданню як беларускай мовы, так і жыцця беларускага народа, дзякуючы свайму захапленню гісторыяй Беларусі, хараством беларускай прыроды. Ураджэнец Магілёва, ён усё жыццё не парываў сувязей з роднай зямлёй. «Любоў да маёй роднай Беларусі я захаваю да свайго апошняга ўздыху»,—пісаў ён аднойчы. Гэта былі словы ад сэрца. З гордасцю сачыў ён за поспехамі нашай рэспублікі, радаваўся нечуванаму росквіту беларускай культуры. Ён быў цесна звязаны з літаратурным жыццём Беларусі, прымаў актыўны ўдзел у рабоце з'ездаў беларускіх пісьменнікаў, у абмеркаванні кніг беларускіх аўтараў, рабоце беларускіх часопісаў.

Многія пераклады П. Кабзарэўскага створаны ў садружнасці з аўтарамі, што таксама станоўча адбілася на іх якасці.

Пераклады П. Кабзарэўскага займаюць выдатнае месца ў перакладчыцкай практыцы з беларускай мовы на рускую, развіваюць лепшыя традыцыі рускай перакладчыцкай школы. Яны ўнеслі значны ўклад у дружбу дзвюх братніх літаратур, адыгралі прыкметную ролю ў іх узаемаабагачэнні, ва ўзаемным абмене культурнымі каштоўнасцямі.

Кніга П. Кабзарэўскага «Гаворыць мае сябры»—своеасаблівая анталогія беларускай паэзіі. Яна дае чытачам магчымасць атрымаць пэўнае ўяўленне аб беларускай паэзіі.

Канечне, не кожнаму, нават самаму выдатнаму перакладчыку, удаецца перастварыць твор на іншай мове ва ўсім багацці зместу і формы арыгінала. Не ўсе цяжкасці перакладу былі адужаны натхненнем і майстэрствам П. Кабзарэўскага. У кнізе ёсць мясціны, дзе арыгінальны тэкст перададзены прыблізна, ёсць і агаворкі, сустракаюцца невыразныя строфы. Але сёння пра гэта ўжо не скажаш чуйнаму да крытычных заўваг перакладчыку. Даводзіцца толькі шкадаваць, што П. Кабзарэўскаму не давялося трымаць гэтай кнігі ў руках, парадавацца яе выхаду ў свет. Шкада, што Павел Сямёнавіч не пачуе ўжо і тых удзячных слоў, якіх варта гэтая кніга.

**Ц. ЛІЯКУМОВІЧ.**

Павел Кабзарэўскі. «Гаворыць мае сябры». Выбраныя пераклады. На рускай мове. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ

ПІОНЕРЫ-ГЕРОІ

Вокладка і малюнкі І. Давідовіча да кнігі «Піянеры—героі», новае выданне якой рыхтуецца ў выдавецтве «Беларусь».

# ЛЮДЗІ АДНАГО ДОМУ

НІХТО не папракне Міхася Даніленку, што ён слаба ведае жыццё. За плячыма пісьменніка нямала гадоў творчай і настаўніцкай працы, франтавыя дарогі і ледзь не дваццаць гадоў няспыннай працы ў абласной газеце «Гомельская праўда».

Новая кніга Міхася Даніленкі «Наш дом» знаёміць чытача з людзьмі розных прафесій і характараў, з іх штодзённай работай, з іх клопатамі і лёсам, дружбай і нягодамі, спагадай і спрэчкамі. Кніга атрымала назву ад аднайменнай аповесці «Наш дом».

У раённым гарадку толькі што пабудавалі васьмікватэрны двухпавярховы будынак. Каму ж дадуць новую кватэру? Унізе ці на другім паверсе? Людзі надакучаюць старшыні райвыканкома, знаёмяцца між сабою ў яго прыёмнай, а пасля паспешліва ўсяляюцца ў новыя пакоі, сцены якіх пахнуць яшчэ тынкам і фарбаю. Знаёмства паглыбляецца, жыхары разам садзяць дрэвы вакол дома, разам едуць у грыбы, схіляюць галовы перад труною таварыша, які калісьці страціў нямала крыві і здароўя на фронце, з болем глядзяць на сына адной з лепшых настаўніц — п'яніцу, спадцішка пасміхаюцца са старога халасцяка, літработніка газеты, здзіўляюцца яго перараджэнню — чалавек закахаўся. Прыемна, што чытач бачыць жывых людзей. Аўтар з любоўю, а часам і з болем гаворыць пра іх. «У нямой цішыні неслася па сваёй арбіце зямля. І на ёй свяцілася мікроннай велічыні кропачка — наш маленькі дом...»

Стварыць добрае, вялікае, памятнае, адарвацца ад цішы і адзіноцтва, знітавацца з калектывам—гэтай праблеме прысвячаецца апавяданне «Апанасенкаў гай». Малады настаўнік Кастусь едзе працаваць у далёкую вёску Тужыкі. Яго прызначаюць дырэктарам школы. Не лёгка да яе прывыкаць, не лёгка зразумець людзей. Можа, яны гавораць праўду, можа жартуюць? Як многа трэба мець цярпення, каб скласці нават простую грашовую ведамасць на зарплату... Недаверлівыя позіркі і — раптам заслужаная прыхільнасць. У апавяданні няма нічога выдуманага, адчуваем праўду жыцця.

Героі апавяданняў М. Даніленкі — людзі розныя па прафесіі і ўзросце: трактарысты («Дадому»), навучэнцы фабрычна - заводскага вучылішча і настаўнікі («Юлька»), ваеннапалонныя ў нямецкім лагеры ( «На парозе волі»), пенсіянеры і вучні («Залатыя рыбкі»).

Да аўтара чытач можа прад'явіць законныя патрабаванні — даць больш шырокі паказ рэчаіснасці, больш расказаць аб людзях, якіх ён добра ведаў, з якімі дзяліўся ў цяжкіх умовах акрайцам хлеба, з якімі прайшоў не адну франтавую дарогу. Але не будзем умешвацца ў творчыя планы пісьменніка, не будзем навязваць яму свае патрабаванні. Выкажам толькі свае меркаванні. У аповесці і апавяданнях аўтара ёсць нямала яркіх фарбаў, ад якіх вее душэўнай цеплынёй, ёсць нямала трапных штрыхоў, якія перадаюць характары і настроі шырокіх колаў нашай грамадскасці. Але ж нельга дараваць аўтару стылістычную неахайнасць, многія дробныя, але вельмі прыкрыя моўныя хібы. Пералічым найбольш характэрныя. Няма ў беларускай мове слова фуражка (шапка, кепка), камок (камяк), навес (павець, падзастрэшша), шарф (шаль, шалік), падспор'е (падмога, дапамога), прыглянуцца (спадабацца, кінуцца ў вочы), не бывае сасновым гай, гай можа быць кляновы, ліпавы, бярозавы. Няма ў нашай мове слова заступ (рыдлёўка, лапата), нельга сказаць «топяць у печы» (паляць у печы), «завідна пахропваў» (зайздросна, моцна), «валос» (валасоў), «пераходзілі па снезе вуліцы» (па заснежанай вуліцы), «манілі людзей» (клікалі, вабілі). «паясніў дзед» (растлумачыў), лягушкі (жабкі) і г. д.

Гэтыя хібы і недакладнасці значна зніжаюць мастацкую вартасць кнігі. І тут ужо віна не толькі аўтара, але ў пэўнай меры рэдактара кнігі.

Будзем спадзявацца, што Міхась Даніленка пераадолее гэтыя недахопы ў сваіх новых кнігах, пазбудзецца паспешлівых і няўважлівых адносін да самага галоўнага ў мастацкім творы — мовы.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

М. Даніленка. «Наш дом». Аповесць і апавяданні. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

гэтыя людзі, якія аддалі аматарскай справе многія гады? Дырэктар вочна-завочнай школы К. Палішчук, настаўнікі другой сярэдняй школы горада Слоніма Ф. Ракевіч, Л. Літвіненка, Л. Клімовіч, рабочы кардоннай фабрыкі «Беларусь» К. Ярашчук, інспектар раённага аддзела культуры Л. Завадская, галоўны ветурач раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі А. Малік. рабочы гарадской друкарні А. Цярэнін, загадчыца гарадской дзіцячай бібліятэкі Г. Малкіна, шафёр раённай бальніцы В. Піменаў, адміністратар гарадскога кінатэатра У. Шчарбакоў і іншыя.

Рэдка дзе сустрэнеш падобную разнастайнасць прафесій, сабраных у адным калектыве. Якім жа запасам ведаў аб жыцці павінен валодаць падобны тэатр!

Усімі ніцямі звязаны з жыццём, калектыў шчодра аддае людзям усё сваё майстэрства. Ён — частый госць самых аддаленых куткоў раёна. У гэтым годзе двойчы выступалі ў абласным цэнтры, былі гасцямі Рэспубліканскага тэлебачання.

— Ездзіць нам даводзіцца многа, — гаворыць артыстка народнага тэатра Лілія Міхайлаўна Літвіненка.— А ў дарозе ўсялякае здараецца. Адзін раз так заселі ў снезе, што гадзіны чатыры чысцілі шлях. Толькі пад раніцу стомленыя вярнуліся ў горад. А праз дзень усе прыйшлі на запланаваную рэпетыцыю.

Пісаць аб М. Варвашэвічу таксама не проста. У чым яго сіла? З самага пачатку работы ў калектыве для яго галоўнае — выхаванне самадзейных артыстаў, асабліва моладзі. Адсюль вялікае пачуццё адказнасці, адсюль поўная самааддача: «не аматары для мяне, а я для аматараў».

На кожную рэпетыцыю Мікалай Фёдаравіч прыходзіць падрыхтаваны, з прадуманым рэжысёрскім планам. Таму з ім і лёгка і цяжка працаваць усім удзельнікам калектыву — і заслужаным ветэранам і навічкам. Яго дэвіз — «Ніякіх скідак на самадзейнасць!»

— Цікавы рэжысёр, — гаворыць аб сваім кіраўніку старэйшая артыстка народнага тэатра Феафанія Лявонцьеўна Ракевіч. І падкажа і пакажа, але не дазваляе паўтараць за ім: «Шукайце самі!»

І артысты шукаюць, кожная роля, вялікая ці малая, для іх — новы пошук

Я не расказаў усю гісторыю народнага тэатра, не збіраўся даць поўны партрэт яго цяперашняга кіраўніка. Я глядзеў спектаклі, якія ішлі ў розныя часы, глядзеў фатаграфіі, чытаў рэцэнзіі, артыкулы, водгукі гледачоў, што беражліва захоўваюцца ў тэатры, гутарыў і з гледачамі, і з акцёрамі, і з іх рэжысёрам. Я проста хацеў зразумець, што ж хвалюе тых і другіх, да чаго яны імкнуцца.

...Адзін за адным гаснуць агні ў вокнах дамоў, пазней за ўсіх — у Доме культуры. Выходзяць артысты Слонімскага народнага тэатра, абменьваюцца ўражаннямі аб рэпетыцыі, аб новых прачытаных кнігах і ўбачаных кінафільмах, дзеляцца сваімі творчымі планамі. Доўга яшчэ чуюцца галасы на прыціхлых вуліцах начнога горада.

**Анатоль ІВЕРС.**



**П**раз чатыры дні гэтую дзяўчынку і сотні тысяч яе сяброўак і сяброў пакліча школьны званок. У клас. За парту. А сёння яна паслухмяна выконвае статут цырка—у фае выбірае смачны «пламбір», у амфітэатры знаходзіць па білеце месца, вітае Карандаша з партнёрамі і ўсім сэрцам перажывае. Рэпрызы, якія гучаць на арэне, нагадваюць — хутка 1 верасня, хутка ў школу. А пакуль —на арэне жанглёр...

Фотаэцюд А. КАЛЯДЫ.

першае лета, як затрымалі ваду, быў я каля яго.

Помню ціхі, з лёгкай высокай хмарнасцю ў небе, трошкі ўрачысты дзень. Гэтую ўрачыстасць надавала дню, мусіць, возера і дымчата-белыя чайкі над ім, якія па нейкім вядомым ім, чайкам, сігналу, з'явіліся тут, над вялікай вадой—дагэтуль чаек у гэтых месцах не было. Чайкі то апускаліся да вады, то спаважна ўзмывалі ў паветра. Што выглядалі чайкі ў новым возеры? Няўжо рыбу? Потым пабачыў, як шчупачок шмыгнуў ад берагу. «Мусіць, з ручая ён, які тут цёк»,—падумалася. Ніжэй плаціны ручай ужо не струменіўся, перасох. Віднеўся пустыр, парослы рэдкімі хмызамі. Ніжэй, метраў за трыста ад першай плаціны, узводзілася другая, з цэментаваным шлюзам для водарэгулявання. Збоку ад першай плаціны віднелася прарытая экскаватарам канава для сцёку лішняй вады з возера. І не ведаў я тады, што гэтая канава сыграла ракавую ролю для першай плаціны.

Здарылася непрадбачанае. Збіраліся ў «Печанежы» разводзіць рыбу гадамі. А ўжо наступнай зімой выявілі прыдуху рыбы ў возеры. Рыба зайшла ў возера з Дзеражэнкі вясной, у час ходу на нерасцілішчы па той канаве, якую пракапалі ў абход плаціны. Як спала вада і перастала бегчы па канаве, рыба засталася ў возеры як у мяшку. І многа яе зайшло—акуні, плоткі, шчупакі. Зімой у час прыдухі рыбу цягалі мяшкамі, шмат яе загінула. І ўсёадно летам аматарырыбаловы выявілі, што шчупакоў у возеры як нідзе. Нечакана аб Печанежскім возеры разнеслася дзіўная слава.

Мне летам, пасля той прыдухі, давялося пабываць на возеры з суседам. З вудамі ў руках ідзём па нязвыклай, няходжанай яшчэ рыбакамі дарозе— ад Касцюковіч да Гарбавіч, дзе сярод поля тое загадкавае, багатае рыбай возера. Сарамліва старонімся стрэчных: можа з нас пажартавалі наконт рыбы? Але ідзем, падганяемыя затоенай страсцю рыбака і няпэўнай надзеяй на шчаслівы ўлоў. Непакоіла нас толькі тое, што ваду з возера спускаюць. Ці праўда гэта? Дзеля чаго?

Падвечар былі каля возера. Сапраўды, вады ў ім было ўжо напалову. Паабапал ляжала гразкае, парослае ўжо водарасцямі днішча.

З другога берагу, выбіраючы чыстыя прагаліны між хмызоў, арудавалі спінінгісты. У іх—па вязцы шчупакоў. Не верыцца, што гэта ўлоў з возера. З'яўляецца няпэўная здагадка: «Няўжо, каб вылавіць рыбу, руйнуюць возера?» Чамусьці не хацелася ў гэта верыць.

Спрабуем закідваць вуды. Ад берагу водмель—не клюе. Ціха. Заходзіць сонца. Ля хмызоў і ў завоінах малькі раз-пораз узрываюць люстраную роўнядзь вады. Ведаю: так паводзяць сябе малыя рыбкі, калі да іх набліжаецца драпежны акунь альбо шчупак. Паўсюдна, на колькі ахоплівае вока, шуміць вада ад сполаху малькоў. Я нідзе раней, ні на якім іншым вадасховішчы, такога скаплення малькоў не страчаў яшчэ. І ўсе малькі загінулі, бо возера неўзабаве спусцілі зусім.

Ды пра гэта потым. Пакуль мы рыбачым.

Я не паспяваў начэпліваць на кручок жыўца. Ледзь кіну, так і павяло паплавок на дно, быццам яго праглытвала сама зеленаватая вада.

У той раз я атрымаў на Печанскім возеры, хоць яно было напалову і спушчана, цудоўнае задавальненне ад рыбалкі. Да вечара я злавіў дзесяць ладных рыбін—акунёў і шчупакоў.

Тады ж, думаў я, каб гэтае возера заўжды заставалася такім, якім было яно. Колькі б тут было рыбы! Можна было б ад сваёй рачной рыбы мець большы прыбытак без затрат на догляд і падкормку, чымся ад прывазнога акультуранага серабрыстага карася, якога спрабавалі запускаць у возера. Спачатку ўсё і рабілася з такім сур'ёзным намерам, каб у першым возеры вадзілася «дзікая», рачная рыба, а ў другім, глыбейшым возеры, што ніжэй першай плаціны, збіраліся разводзіць прывазнога карпа і серабрыстага карася. На беразе возера былі збудавалі домік рыбака. Вызначаўся і рыбавод-вартаўнік з месячным акладам.

Ды добрыя планы гэтыя былі нечакана паламаны. Возера разбурылі. Навошта? Ды проста дзеля забавы. Дачуўшыся, што ў яго з рэчкі зайшло вясной шмат рыбы, кіраўнікі саўгаса на чале з былым дырэктарам Лычовым рашылі паласавацца ёй. Спрабавалі рыбу вылоўліваць сеткамі, ды перад тым, як застаўляць ваду, днішча будучага возера не ачысцілі ад хмызоў, рыба хавалася ў іх. Вось і прыйшла тады ў галаву саўгасным ласунам-рыбаловам дзікая думка: спусціць ваду, каб голымі рукамі браць рыбу. Прыгналі экскаватар, разрылі плаціну. Бурны паток вады змыў яе ў другое, ніжэйшае возера, ад чаго вадаём ураз зрабіўся мелкім. У той капітальнай плаціне, што была ўзведзена ніжэй, вада падмыла шлюз, ён рухнуў.

Ну хіба ж гэта рыбаводства?

Нядаўна я званіў у саўгас «Печанеж», пытаў пра прыбыткі ад возера: ці акупіліся за 10 год тыя 9 тысяч, што былі затрачаны на ўзвядзенне плаціны? Бухгалтар Сазонава са смяшком адказала:

— Якія там прыбыткі? Аб іх няма чаго казаць.

Тое ж самае пачуў я і ў саўгасе «Забычанне», дзе таксама ёсць штучнае возера.

А каб сур'ёзна, ды не ў адной, дзвюх гаспадарках, а паўсямесна (ва ўсякім выпадку там, дзе ёсць магчымасць) узяцца за рыбаводства так, як мы бярэмся за жывёлагадоўлю? Колькі б было ў нас дадаткова каштоўнага прадукту, патрэба ў якім так востра адчуваецца ў нас сёння! Уявіце сабе, што ў нашых крамах не прывазная касцістая і кіслая на смак стаўрыда, а наш прэснаводны мясісты шчупак альбо акунь, ды па той жа, што і стаўрыда, цане. Упэўнены, перавагу аддасць пакупнік сваёй прэснаводнай рыбе. Пара нам задумацца над гэтым. Магчыма, мэтазгодна стварыць ва ўсіх раёнах пры сельскагаспадарчых упраўленнях альбо пры райвыканкомах, рыбводы, рыбнагляды ці штосьці падобнае ў гэтым родзе, каб быў адзіны дзейсны кантроль за рыбаводствам. Тады асобныя кіраўнікі не здзекваліся б так з азёр, як у саўгасе «Печанеж».

Але спярша,—каб былі азёры. Для гэтага варта ўспомніць нам перш за ўсё пра высушаныя ў нас вадаёмы, пра разбураныя плаціны, аднавіць, адрамантаваць іх, узвесці, дзе можна, новыя, затрымаць ваду ў непрадуктыўных ірвах і ўпадзінах, непрыгодных ні пад ворыва, ні пад сенажаць. А такіх зямель, якія не прыносяць зараз ніякай карысці, набярэцца сотні гектараў толькі ў адным нашым Касцюковіцкім раёне.

Асабліва шкада тых азёр, якія былі ў нас, ды зніклі. Здаралася гэта так: дзесьці ў плаціне з'явілася шчыліна, праз яе пачынала сачыцца вада. Падрамантаваць бы ў час плаціну, і возера было б цэлае. Дык не. І вось аднойчы прачынаюцца ў вёсцы людзі, а на тым месцы, дзе было возера, адно чорнае днішча. Так знікла пасля вайны ўжо возера ў маёй Слабодцы. Так было разбурана яно некалькі гадоў назад у вёсцы Тупічыне і ў іншых населеных пунктах. Дзесяткі азёр з-за безгаспадарчых адносін да іх зніклі на Касцюкоўшчыне. Было аж тры возеры на рэчцы Жадунцы, было возера ля самых Касцюковіч, былі яны на рэчках Дзеражэнцы, Кроўні, на Сураве, Чарнавутцы, Машоўцы і на многіх крынічных ручаях. Вялікае возера было да вайны на Бесядзі каля Вусаўкі. У свой час іх утварэнне было прадыктавана пэўнымі жыццёвымі абставінамі бо найбольш таннай энергіяй была вада. Плаціны ўзводзілі на рэках і ручаях не без карысці для сябе, уладальнікі млыноў, сукнавален. Бо трэба было змалоць зерне на хлеб, зваліць сукно на сярмягу. Пазней, з укараненнем ў гаспадарчае жыццё вёскі электрычнай энергіі, патрэба ў вадзяных млынах адпала.

З гэтай прычыны амаль паўсямесна азёры былі запушчаны і разбураны. А дарэмна. Патрэба ў іх саміх, як мы бачым, не адпала, а, наадварот, узрасла. Зараз ходзяць людзі паўз высахлае азярышча і шкадуюць: некалі ж было тут возера, і рыба ў ім вадзілася, і птушка плавала, ды і прыгажэй было з возерам.

Здаўна чалавек цягнуўся да вады, узводзіў селішчы на ўзбярэжжы рэк і азёр. Не аслабла гэтая цяга да вады ў людзей і цяпер. Многа дзе я чую скаргі і нараканні на безгаспадарчыя адносіны да азёр.

Як увогуле адносяцца многія кіраўнікі да азёр, характэрны, на маю думку, такі прыклад: Перад тым, як сесці пісаць пра азёры, я пазваніў у сельсаветы, прасіў, каб адтуль даслалі мне на рэдакцыю раённай газеты звесткі аб колькасці і цяперашнім стане азёр. Адазваўся адзін Бацькавіцкі сельсавет: маўляў, у Бацькавічах было некалі возера, ды цяпер яно разбурана. Астатнія адмаўчаліся.

Я ўжо гаварыў, што азёры—гэта ёмістыя дадатковыя крыніцы для папаўнення страчанай вільгаці, багатая цаліна з пункту погляду развядзення ў іх рыбы. А яшчэ...

Мінулым летам я праязджаў паўз вёскі Канавы, што на Хоцімшчыне. Быў гарачы дзень. Збоч дарогі, якая вяла ў вёску, хлапчукі купаліся ў... лужыне. Бо паблізу ні рэчкі, ні возера няма. «Тут не навучышся плаваць»,—падумалася мне, і ўспомніў я трывожны пахмурны дзень сорак трэцяга.

Мы, хлапчукі, у той дзень пасвілі каля Бесядзі коней. Апоўдні да нас, спяшаючыся, падышлі два партызаны. Былі яны ўзмакрэлыя, узрушаныя, і ўсё азіраліся на дуброву. Як пасля мы дазналіся, з Саматэвіч на Слабодку рухаўся карны атрад. Партызаны былі ў разведцы ,і, мусіць, апасаліся пагоні. Таму яны, мінуўшы пераправу, што была паблізу дубровы, скіравалі прама да нас, пастушкоў. Тут, адразу за рэчкай, пачыналася паласа славутых партызанскіх бранскіх лясоў. Але як пераправіцца на той бераг? Рэчка ў гэтым месцы была тады глыбокай. Адзін партызан сабраўся плысці, другі запярэчыў: не ўмеў плаваць. Добра што паблізу аказаўся човен. Але пераправіліся партызаны на той бераг не без прыгод. Ужо каля другога берагу вірлівае цячэнне хіснула човен на бок, і партызаны са зброяй у руках апынуліся ў вадзе. Той, што плаваў, лоўка, адной рукой дагробся да берагу. Другі, не выпускаючы з рукі вінтоўкі-снайперкі, якой мусіць вельмі даражыў, пачаў бултыхацца ў вадзе. Можа, і захлынуўся б ён, каб не ўчапіўся рукой за перавернуты човен.

А колькі такіх вось нашых добрых хлопцаў загінула на бурных ваенных пераправах толькі з-за таго, што яны не ўмелі плаваць? Таму, мне здаецца, не лішнім будзе паклапаціцца аб азёрах і з гэтага пункту погляду. Хто ведае, якія выпрабаванні на нашу долю выпадуць яшчэ ў будучым? Вось чаму мы павінны зараз расціць і выхоўваць здаровых, фізічна загартаваных, лоўкіх абаронцаў. Ды і пара, нарэшце, проста падумаць аб здаровым і культурным адпачынку нашых працаўнікоў.

Азёры і рэкі абагачаюць нас духоўна. Колькі пра хараство і прыгажосць складзена ў народзе песень, паданняў, легенд!

Хто ж павінен узяцца за ўзвядзенне азёр? Хто памножыць красу нашай зямлі? У нас у рэспубліцы ў мінулым годзе створана спецыяльная ўстанова, якая будзе займацца пытаннямі меліярацыі, стварэннем штучных сажалак і вадаёмаў. Але адной гэтай установе не пад сілу будзе рашыць такое жыццёва важнае пытанне, як паўсямеснае збудаванне штучных азёр. Тут патрэбны намаганні ўсіх нашых гаспадарчых, партыйных і савецкіх органаў.

Азёры — краса зямлі і краса жыцця чалавечага, і добрая людская памяць назаўсёды застанецца аб тых, хто з'явіцца ініцыятарам і кіраўніком стварэння гэтай чыстай радасці для многіх і многіх пакаленняў.

# МІЦКЕВІЧ

браў, але назаўтра мастак не прыйшоў—ужо трэба было пераносіць малюнак на камень). Гэта адбілася на якасці. Пераклад тэкстаў з рускай на беларускую мову зроблены неахайна, а часам і проста непісьменна. Можа і нявартa пісаць пра такія «дробязі», як «Юзеў Малеўскі», «дом у Вільна», «даліна ў Коўно», як «шлях перавоза праха Міцкевіча». Але ж ёсць рэчы куды больш сур'ёзныя. У рускім тэксце гаворыцца, што Міцкевіч прымыкаў да таварыства філаматаў, у беларускім—што ўваходзіў у яго, а, як вядома, гэта розныя рэчы. Пра другую і чацвёртую частку паэмы «Дзяды» сказана, што яны—«**выкрываючыя** сацыяльную няроўнасць і жахі прыгонніцтва». Апрача небеларускай формы тут ёсць і фактычная недакладнасць: працытаваныя словы стасуюцца толькі да другой часткі паэмы. Неахайна зроблены і пераклады з польскай мовы: «Чацвёрты том» ператварыўся ў «чацвёрты збор», а назва кнігі Ю. Пшыбася «Чытаючы Міцкевіча» пададзена як «Чытаюць Міцкевіча».

Некаторыя подпісы наогул непрадуманы, недакладны. Што значыць «Ілюстрацыя абрада «Дзядаў»? Што графік Л. Драчоў стварыў ілюстрацыю да адпаведнай мясціны з паэмы? Ці—карціну сялянскага абраду, якім ён быў у сапраўднасці і які Міцкевіч потым творча пераасэнсаваў? Чаму Міцкевіч «жыў» у туганавіцкім доме Верашчакаў, калі ён сюды толькі прыязджаў? Як успрымаць подпісы тыпу «Ад'езд А. Міцкевіча на захад. Эцюд Г. Мясаедава»? Гледачу прыходзіцца здагадвацца, што перад ім—ці арыгінал, ці копія.

І яшчэ пра подпісы. У экспазіцыі часта цытуецца Міцкевіч у беларускіх перакладах. Гэта добра. Але амаль нідзе не ўказваецца аўтар перакладу, няма самога слова «пераклад».

Паколькі экспазіцыя музея—гэта не нешта застыглае, раз і назаўсёды дадзенае, хочацца выказаць некалькі пажаданняў на будучае.

Першае: не трэба такой катэгарычнасці адносна месца нараджэння Міцкевіча. У экспазіцыі сказана: «Нарадзіўся на хутары Завоссе». А між тым пра месца нараджэння паэта выказваліся розныя думкі. Пры яго жыцці і пасля смерці месцам яго нараджэння часта называўся Навагрудак. Засноўваючыся на метрычных дакументах, на Навагрудак указваў у сваёй брашуры Вінцэсь Каратынскі. Згодна з А. Ельскім, бацька паэта, Мікалай Міцкевіч, атрымаў частку невялікага фальварка Завоссе толькі праз пяць месяцаў, пасля нараджэння сына. У якасці мяркуемага месца называлася таксама прыдарожная карчма ў Асаўцы. Праўда, брат А. Міцкевіча Аляксандр у 1861 годзе сцвярджаў у пісьме да маршалка Навагрудскага павета Брахоцкага, што паэт нарадзіўся ўсё ж у Завоссі—яго бацькі паехалі туды да родзічаў на каляды. Потым гэта пісьмо было прынята за аксіёму. Аднак пытанне застаецца спрэчным. Сучасныя польскія энцыклапедычныя даведнікі, напрыклад, «Малы слоўнік польскіх пісьменнікаў», не ставяць апошнюю кропку над і, пішуць, «Нарадзіўся ў Завоссі або ў Навагрудку». Дык навошта ж такая катэгарычнасць тут, у Навагрудскім музеі? Навошта рабіць выгляд, што ніякіх сумненняў няма?

Другое: музей трэба папоўніць прыжыццёвымі выданнямі Міцкевіча. Іх пакуль што малавата. А тыя, што ёсць, пададзены так, што недасведчанаму воку цяжка вызначыць, што ляжыць у вітрыне: арыгінал, макет, муляж? У той жа час у рэспубліканскіх бібліятэках прыжыццёвыя выданні Міцкевіча ёсць нават у дублетных фондах. Іх можна было б з карысцю для справы перадаць туды, дзе яны саслужаць лепшую службу.

Трэцяе: трэба паволі, але настойліва ператвараць музей з літаратурнага ў літаратурна-мемарыяльны ці нават мемарыяльны. Цяпер ён мае крышку эклектычны характар. Пераважаюць пададзеныя па-сучаснаму фатаграфіі, кнігі, малюнкі. Але ў першых дзвюх залах адчуваецца імкненне наблізіцца хаця б у дробязях (люстра, карнізы над вокнамі) да эпохі Міцкевіча. З'яўляюцца рэчы, звязаныя з яго асобай. Скажам, крэслы з маёнтка ў Туганавічах, праўда, рэстаўраваныя дужа аляпавата. Я разумею цяжкасці: асабістых рэчаў Міцкевіча захавалася да крыўднага мала, яны пераважна за мяжой. Падробкамі накшталт «міцкевічаўскіх» акуляраў (на шчасце, у новай экспазіцыі іх няма) тут таксама не дапаможаш. Але ж ёсць — і ў запасніках іншых музеяў і ў прыватных асоб—рэчы той эпохі. Яны перададуць каларыт, настрой пачатку XIX ст., дазволяць лепш зразумець дух міцкевічаўскай паэзіі. Так зрабілі ў Міхайлаўскім — і паглядзіце, як уражвае пушкінскі музей...

І апошняе: нельга грэбаваць і сучаснымі сродкамі ўздзеяння на гледача. Добра было б фатаграфіі міцкевічаўскіх мясцін замяніць ці дапоўніць дыяпазітывамі. Добра было б у першай ці другой зале пачуць запісаную на магнітафонную стужку беларускую народную песню «Да цераз мой двор», якую Марыля спявала Міцкевічу, а ў пятай, мемарыяльнай,—галасы артыстаў, якія чытаюць творы Міцкевіча, галасы беларускіх паэтаў, якія прысвяцілі яму свае вершы.

Гэта—пажаданні на будучае. Яны ніяк не закрэсліваюць таго, што ўжо ёсць. Новая экспазіцыя—жыве. Я быў у музеі ў нядзельны дзень. Людзі ішлі і ішлі. І ўсюды, каля бюстаў Міцкевіча, яго партрэтаў, было поўна палявых красак. Навагрудская зямля шчодра адплачвала таму, хто яе ўспеў і праславіў.

альнасць, якая фарміруе новы тып чалавека, што вырастае з масы і арганічна з ёю звязаны. Т. Драйзер адзначаў маральную чысціню, бескарыслівасць пачуццяў, чалавечнасць і грамадзянскасць савецкіх людзей. Некалькі пазней у «Пісьме да савецкай моладзі» амерыканскі пісьменнік напіша: «...Расія для мяне—найвялікшая краіна ў свеце па сваіх інтэлектуальных, мастацкіх, эстэтычных і практычных дасягненнях...».



Гэта вера ў сацыялізм дала Драйзеру магчымасць таксама напісаць: «Ленін і яго Расія, гуманнасць і справядлівасць, якія ён унёс у кіраванне краінай, у канчатковым выніку перамогуць; бо, хоць Леніна няма ў жывых, але сацыяльны лад, які ён стварыў і які яго саратнікі і пераемнікі з таго часу прывялі да сучаснай моцы і велічы, назаўсёды застанецца для будучых пакаленняў».

Вялікая цікавасць Т. Драйзера да савецкай літаратуры, асабліва да творчасці М. Горкага. У артыкуле «Горкі абуджаў думку» (1936) Т. Драйзер адзначаў веліч рускага пісьменніка як прадстаўніка і пачынальніка літаратуры сацыялістычнага рэалізму, якая сцвярджае новы гуманізм, гуманізм не толькі пакуты, але і барацьбы. «Толькі тая літаратура, — пісаў ён, — майстрам якой быў Горкі, якая бачыць вялікія няшчасці і радасці нашага рэальнага жыцця, — толькі такая літаратура абуджае і накіроўвае чалавечую думку». Убачыўшы асаблівасць горкаўскага рэалізму ў яго жыццесцвярджальнай сіле, якая пашырае межы мастацкага разумення рэчаіснасці, Драйзер заклікаў сучасных амерыканскіх пісьменнікаў вучыцца ў Горкага.

У гады крызісу, які развеяў ілюзію ўсеагульнага працвітання і дабрабыту, Т. Драйзер канчаткова звязвае свой лёс з лёсам амерыканскіх працоўных і становіцца ў рады прадстаўнікоў сацыялістычнай літаратуры. Ён прымае ўдзел у многіх важнейшых падзеях палітычнага і культурнага жыцця краіны. Разам з групай амерыканскіх пісьменнікаў Драйзер выязджае ў Харлан, цэнтр забастовачнага руху. З'яўляецца кніга «Гавораць гарнякі Харлана». У 1931 годзе ён заканчвае адзін са сваіх самых значных твораў — «Трагічную Амерыку». Галоўнай асаблівасцю гэтых кніг, якія змяшчаюць велізарны выбуховы матэрыял, з'яўляецца прыцягненне новых жыццёвых назіранняў і новае іх эстэтычнае асэнсаванне. Пісьменнік засяроджвае сваю ўвагу на барацьбе рабочых і на іх перакананасці: перамогу можна здабыць толькі ў барацьбе.

У Т. Драйзера склалася яскравае ўяўленне аб грамадскай функцыі мастацтва, у аснове якой ляжала разуменне новай сувязі мастацтва з рэвалюцыйнай рэчаіснасцю, з народам, які ўсведамляе сваю стваральную ролю ў гісторыі. У многіх артыкулах Драйзер паставіў важнейшыя праблемы, звязаныя з разуменнем грамадскай ролі пісьменніка ў сучасным свеце («Жыццё, мастацтва і Амерыка», «Зварот да мастака», «Прамова, сказаная ў Парыжы» і іншыя). Менавіта таму, што палітыка пралетарыяту з'яўляецца сапраўды гуманістычнай і паслядоўна дэмакратычнай, Драйзер меў усе падставы заклікаць мастакоў звязаць сваю творчасць з палітыкай, здольнай узвысіць мастацтва і павялічыць яго ролю ў грамадскім развіцці.

Характарызуючы стан сучаснага амерыканскага грамадства, Генеральны сакратар Камуністычнай партыі ЗША Гэс Хол у сваім выступленні на XXIV з'ездзе КПСС гаварыў: «Па меры таго, як капіталізм загнівае і ўсё менш здольны адгукацца на чалавечыя патрэбы, адбываецца распад жыццёвых каштоўнасцей». Таму сёння імя Т. Драйзера, гнеўнага выкрывальніка імперыялізму, стаіць у першым радзе барацьбітоў за сацыяльную справядлівасць, свабоду і незалежнасць народаў.

**Людміла КРЫЛОВА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# ГАЗЕТА, ЯКАЯ ВЫХОДЗІЛА РАЗ У ГОД

*З гісторыі дарэвалюцыйнага друку ў Беларусі*

**Пакуль вядомыя два выпускі гэтай газеты. Адзін выйшаў у Пінску, другі — у Брэст-Літоўску. У падзагалоўку да «Пинского листка», які выйшаў у снежні 1898 года, і «Брест-Литовского листка», што паявіўся ў снежні 1901 года, так і значыцца: «Выходзіць адзін раз у год, у дзень бенефісу артыста М. А. Фебера». Няхай не падумае чытач, што гаворка ідзе пра нейкую асаблівую тэатральную афішу. Гэта іменна газета, і менавіта так яна зарэгістравана ў такіх сур'ёзных бібліяграфічных выданнях, як «Русская периодическая печать 1703 — 1900 гг.» Н. М. Лісоўскага і «Библиография периодических изданий России. 1901—1916 гг.», выпушчаная Публічнай бібліятэкай імя М. Я. Салтыкова - Шчадрына ў Ленінградзе. Дарэчы, у фондах гэтай бібліятэкі і захоўваюцца два экземпляры гэтай дзіўнай газеты, якая з'яўляецца арыгінальным выданнем правінцыяльнага тэатра канца XIX — пачатку XX стст.**

**На першай паласе «Пинского листка» буйным шрыфтам набрана аб'ява:**

**«У сераду 20-га студзеня 1899 года ў развітальны бенефіс распарадчыка таварыства і артыста М. А. Фебера ў зімовым тэатры прадстаўлена будзе 1-ы раз на пінскай сцэне поўная вясёлая аперэтка, рэпертуар Парыжскага тэатра, і вялікая жывая карціна**

**Усе мы прагнем любві!!!**

**Аперэтка ў 4-х дзеях,**

**з французскага.**

**У заключэнне 4-га акта пастаўлены будзе арыгінальны танец**

**Пякельны галоп.**

**II**

**Маісей,**

**які дае на гары Сінай дзесяць запаведзей.**

**Жывая карціна пры асвятленні бенгальскага агню».**

**І адразу ўспамінаюцца апавяданні Купрына, Чэхава аб рускіх правінцыяльных акцёрах. Руская тэатральная правінцыя... Колькі было ў ёй сапраўднага таленту і колькі нізкапробнай бульваршчыны, колькі людзей, што выйшлі з яе склалі гордасць рускай сцэны, і колькі было трагедый, паламанага чалавечага жыцця! Што ж стаіць за гэтай, яўна разлічанай на абывацельскі густ, аб'явай? Зрэшты, калі прыгледзецца да яе больш пільна, нельга не заўважыць, што яна напісана на мяжы шаржу, што ў ёй праглядае яўная іронія. Далейшае знаёмства з газетай, пацвярджае, што аўтары яе валодалі бясспрэчным пачуццём гумару. Вось што паведамляецца, напрыклад, у раздзеле «Тэлеграмы»: «Парыж. Яшчэ адзін доказ любві французаў да Расіі. Даведаўшыся пра бенефіс п. Фебера ў тэатры ў Пінску, яны камандзіравалі дэпутацыю ў Пінск. На чале дэпутацыі знаходзіцца новы акадэмік Поль Буржэ, які ўпаўнаважаны паведаміць рэцэнзію аб спектаклі ў Пінску ва ўсе парыжскія газеты». Ёсць доля горычы ў гэтым жарце. На якія сур'ёзныя рэцэнзіі ў друку магла разлічваць забытая богам правінцыяльная трупа?..**

**Што ж датычыць адкрыта пацяшальнай бенефіснай праграмы, то тут уся справа ў традыцыях правінцыяльнага тэатра. Лічылася, што ў дзень бенефісу на сцэне павінна ісці абавязкова што-небудзь лёгкае, простае. Як правіла, выдумвалася якая-небудзь незвычайная праграма з «Пякельным галопам», і выпуск гумарыстычнай тэатральнай газеты трэба разглядаць як частку гэтай праграмы. Натуральна, што ў гэтай газеце няма сапраўдных подпісаў пад матэрыяламі. У якасці рэдактара-выдаўца газеты значыцца Донкіхоцкі. Пад фельетонам «Індзейская легенда» стаіць подпіс — Легендовіч. Гэта жартаўлівая легенда расказвае аб тым, як багі прымусілі пустэльніка Саніасі «бе-чы на тэатральную вуліцу, каб купіць білет». У такім жа духу напісаны рэпартаж «Бенефіцыянт».**

**Другі выпуск гэтай газеты — «Брест - Литовский листок» — па сутнасці паўтарае матэрыялы «Пинского листка». Змянілася толькі праграма. У Брэсце група Фебера паказвала «новую сучасную камедыю, якая ідзе штодзённа ў Маскве ў Корша пры поўных зборах, «Школьная рэформа. Педагогі» і новы модны смешны фарс «Убачыў жанчыну — загінуў».**

**Трэба сказаць, што выданне газеты, няхай нават раз у год, было даволі дарагой прыемнасцю. У практыцы правінцыяльнага тэатра гэты выпадак з'яўляецца выключным. Што ж гэта быў за чалавек, антрэпрэнёр і артыст М. А. Фебер, у дзень бенефісу якога выходзіла раз на год спецыяльная газета? Што ўяўляла сабой яго трупа?**

**Давялося перагарнуць нямала тэатральных мемуараў, перш чым мне сустрэлася кніжка Л. Празароўскага «З мінулых год» (М, ВТО, 1958). Таленавіты рэжысёр і акцёр, народны артыст РСФСР, Леў Міхайлавіч Празароўскі ў пачатку нашага стагоддзя быў выдатным правінцыяльным акцёрам і рэжысёрам. Ён удзельнічаў у спектаклях разам з такімі карыфеямі правінцыяльнай сцэны, як М. Т. Іваноў-Казельскі, М. М. Пеціпа... А пачынаў Леў Міхайлавіч у 1896 г. у Чарнігаве ў антрэпрызе М. А. Фебера.**

**«Справа, у якую я трапіў на службе, — піша Леў Міхайлавіч, — вялася вельмі сціпла. Нястомны Міхаіл Анімавіч не толькі кіраваў тэатрам, але і маляваў дэкарацыі, перапісваў ролі, рабіў макеты афіш, выконваў абавязкі адзінага суфлёра і часамі выступаў як акцёр другога або трэцяга становішча. Звычайны ж рэпертуар нашых спектакляў быў даволі нізкапробны — яго складалі п'есы Крылова, Аверкіева і Карпава і толькі раз на тыдзень (адзін вячэрні і адзін ранішні спектакль для моладзі) ставілася руская класіка. Работа над класікай была для акцёра сапраўдным святам. Асабліва радавалі ўсіх нас ранішнія спектаклі, якія вельмі добра прымаліся маладой аўдыторыяй».**

**Трупа М. Фебера многа гастралявала. Л. Празароўскі ўспамінае, што, «закончыўшы зімовы сезон у Чарнігаве, Фебер прапанаваў некаторым з нас паехаць у гастрольную паездку па гарадах Царства Польскага. На чале калектыву стаў гастралёр-трагік Пятроў - Краеўскі. У рэпертуары ў нас былі «Гамлет», «Атэла», «Кін», «Каварства і любоў», «Лес» і камедыі: «Тарцюф», «Мешчанін у дваранстве», «Вяселле Фігара»... Відавочна, у адной з такіх паездак трупа Фебера і пабывала ў Пінску і Брэст - Літоўску, выпусціўшы там сваю газету. Гэта газета — адно з двух вядомых пакуль чыста татральных перыядычных выданняў, што выходзілі ў дарэвалюцыйнай Беларусі. Другім такім выданнем з'яўляецца часопіс «Гомельский театрально - музыкальный вестник». Але аб ім варта расказаць асобна.**

**С. БУКЧЫН.**

